З Новым 2010 годам і Ражством Хрыстовым!

**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10.2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер,
выдаецца на беларускай мове.

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**Выдаецца са снежня 1994 года** | 1 (509) студзеня 2010 года | Кошт **свабодны**





Навагодняя ялінка ў дзіцячым садзе №5.

Фота Ул. Скрабатуна









Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па **хатняму** тэлефону на нумар 166. **Кругласутачна.** Выразна назавіце назоў газеты. У дадзеным выпадку – “Вольнае Глыбокае”.

Кошт абвесткі аб’ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтом да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.

















**Наступны нумар газеты «Вольнае Глыбокае» выйдзе 14 студзеня 2010 г.**

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ãðàí-ïðû çàÿêàñöü

■Кастусь Александровіч

**У гэтым стагоддзі яшчэ не было ніводнага года, каб лепшая прадукцыя ААТ “Пастаўскі малочны завод” не адзначалася рознымі прэстыжнымі ўзнагародамі. Адыходзячы 2009 год таксама папоўніў багатую калекцыю дыпломаў і медалёў гэтага сучаснага прадпрыемства галіны.**

У чарговым рэспубліканскім конкурсе “Лепшая прадукцыя года-2009” лепшымі ў Беларусі прызналі вырабы пастаўчан: сыры цвёрдыя і плаўленыя “Тызенгауз”, “Чэдэл-Бел”, “Канталі” і біякефір з лактулозай. Акрамя таго завадчанам аргкамітэт конкурсу прысудзіў і Гран-пры “За стабільна высокую якасць выпускаемай прадукцыі”. У другім нацыянальным конкурсе “Лепшыя тавары года-2009 Рэспублікі Беларусь” прадукцыя малзавода з Пастаў таксама пастаянна адзначаецца сярод лепшых у краіне. Сёлета дыпломаў пераможцаў удастоіліся сыры “Рывера” і “Тызенгауз”, біякефір, попыт на якіх расце і за мяжой. У прыватнасці на рынках Расіі лепшымі прызналі пастаўскія сыры “Раніца” і “Галандскі”. Дарэчы, сыр “Раніца” на прайшоўшай у Санкт-Пецярбургу міжнароднай выставе “Пецерфуд-2009” зрабіў фурор і атрымаў залаты медаль. На будучы год завод атрымаў шмат заказаў на сваю прадукцыю, і дасягнуты рубеж экспартных паставак 8 млн. долараў можа быць перакрыты, бо яго вырабы якасныя і смачныя.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Êàá ïðàäàâàöü, òðýáà ïàïðàöàâàöü

■Станіслаў Раманчук

**Пад канец года на Віцебшчыне ўдалося істотна скараціць складскія запасы і толькі мяса-малочнай прадукцыі рэалізаваць агульным коштам больш за 85 млрд. рублёў.**

У ліку іншых прадпрыемстваў галіны і Глыбоцкі МКК з сярэдзіны лета прадаў сваіх малочных кансерваў болей чым на 7 тысяч туб. У лістападзе па кантракту з адной фірм расійскай сталіцы глыбачане адгрузілі ў гандлёвыя цэнтры Масквы 3 мільёны банак згушчонага малака. На камбінаце спецыялісты прыдумалі і новае аблічча для сваёй фірменнай прадукцыі. Тут ужо паспрабавалі выпускаць згушчонку ў цікавай упакоўцы 300-грамовых дой-пакетах з дазатарам. Масавую вытворчасць гэтых смачных тавараў Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат пачне ўжо ў 2010 годзе. Сёлета тут актыўна шукалі новыя рынкі збыту, у тым ліку ў аддаленых краінах свету, утрымаліся на асноўным, хоць і няпростым расійскім рынку. На сучасны менеджмэнт і лагістыку робяць стаўку не толькі на адным з флагманаў малочнай прамысловасці ў Глыбокім. У гэтым годзе заводы і фабрыкі Віцебскаблмясамалпрама наладзілі выпуск 76 новых найменняў тавараў. Многія працоўныя калектывы выробляюць тое, што патрэбна спажыўцу, па канкрэтных заказах.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Ðàäàñöü àäíà íà ¢ñ³õ

■Станіслаў Раманчук

**Сёлетні год у гісторыі спорта на Мёршчыне пакінуў самы яркі след, у Віцебскай вобласці зараз няма роўных у футболе мясцовай камандзе ФК “Мёры”.**

Яна проста выдатна правяла сезон, стала з вялікім адрывам чэмпіёнам вобласці, а ў пераходным турніры ў Магілёве сярод чэмпіёнаў абласцей і сталіцы ў сваёй групе “Б” заняла ганаровае 3 месца. Прычым, гэта аматарская каманда паракаўча разабралася з калектывам 2-й лігі ФК “Орша”, які перамагла з лікам 5:1. Мёрскія футбалісты, з якімі пачаў працаваць пераехаўшы з Глыбокага гуляючы трэнер Вячаслаў Богуш, выступілі і ў розыгрышы Кубка Беларусі. Напрыканцы года ў райцэнтры па праграме УЕФА ўступіла ў строй футбольнае поле са штучным газонам. Аб такіх радасных падзеях гаварылася днямі ў раённым Доме культуры, дзе прайшло вялікае свята спорту. Прадстаўнікі абласной федэрацыі футбола ўручылі пад апладысменты балельшчыкаў пераможцам першынства залатыя медалі, дыпломы і Кубак камандзе-пераможцы. Не былі забыты на прайшоўшых урачыстасцях заслужаныя ветэраны футбола, адзначылі і лепшых маладых выхаванцаў мясцовай ДЮСШ. У новым сезоне чэмпіянат Віцебшчыны абяцае стаць яшчэ цікавейшым, бо мёрцам сур’ёзную канкурэнцыю складуць моцныя каманды з Пастаў, Глыбокага, Полацка, Оршы, Віцебска і Новалукомля.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# À ¢ íàñ ó äîìå ãàç

■Кастусь Александровіч

**Апошнім часам проста рэкорднымі тэмпамі пачынае паўсюдна насельніцтва карыстацца дабротамі цывілізацыі. Вось і ў Пастаўскім раёне напрыканцы восені зарэгістравалі тысячнага абанента прыватнага сектара з вёскі Юнькі, дом якога быў падключаны на прыродны газ.**

Між іншым, сам райцэнтр атрымаў “блакітнае паліва” зусім нядаўна, восенню 2004 года. Дагэтуль у Паставах налічвалася толькі 16 км пракладзеных пад’земных газаправодаў, а цяпер іх працягласць набліжаецца да 150 кіламетраў. Сёлета ў горадзе толькі некалькі вуліц не маюць вулічных газаправодаў. Карыстаючыся падтрымкай дзяржавы, жыхары не толькі горада, але і сельскай мясцовасці імкнуцца падвесці сабе такое экалагічна чыстае і зручнае паліва. На працягу года было створана некалькі такіх кааператываў і падключылі прыродны газ у больш чым 330 дамоў. На новы 2010 год газавікі таксама маюць шырокі фронт работ, бо паступіла 7 заявак на перавод на прыродны газ шэрагу вуліц у райцэнтры, гарпасёлку Варапаева і ў аграгарадку Навасёлкі. Спецыялісты райгазу і “Віцебскгазбуда” сёлета таксама газіфікавалі яшчэ 2 сучасныя зернесушылкі, перавялі на газ кацельню райвыканкама і новага філіяла АСБ “Беларусбанк”, жылыя дамы вяскоўцаў у Камаях і Хацілах.

# Êàçê³ ìíîãàìó íàâó÷àöü

■Чэслаў Якубовіч

**Пасля нядаўніх трагічных падзей у пермскім начным клубе “Кульгавы конь”, усім стала зразумела, што грэбаванне правіламі супрацьпажарнай бяспекі вядзе да бяды.** Нічога няма важней жыцця і здароўя людзей, бо толькі на Віцебшчыне сёлета ў агні загінулі на пажарах больш 160 чалавек, сярод якіх 11 дзяцей. Дапамагчы супрацоўнікам МНС у важнейшай справе прафілактыкі вогненных здарэнняў вырашылі артысты абласной філармоніі. Па прапанове яе адміністратара на заходніх раёнах Анатоля Махіні яны сумесна з цэнтрамі прапаганды і навучання падрыхтавалі спецыяльнае тэатральна-відовішчнае прадстаўленне. У гульнявой казачнай форме галоўныя героі артысты пераўвасобіліся ў персанажы злой Кляксы і добрага Выратавальніка. З гэтай пастаноўкай брыгада Віцебскай філармоніі пабывала ў большасці сярэдніх школ, гімназій і дзіцячых садкоў Браслава, Мёр, Пастаў і Глыбокага. Нават не чакалі арганізатары гэтага праекта, што ён выкліча такую цікаўнасць і дапытлівы інтарэс у хлопчыкаў і дзяўчынак. Прадстаўленні прайшлі з аншлагам, усім было цікава даведацца, чаму здараюцца вогненныя здарэнні і з-за чаго небяспечна гуляць па тонкім лёдзе. У новым годзе праект прадоўжыцца, і такія мерапрыемствы пройдуць паўсюдна па Віцебскай вобласці.

Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í

# Ïðûéøî¢ ÷àñ ìàéñòðà

**На працягу цэлага месяца ў абласным краязнаўчым музеі ў Віцебску дэманстравалася цікавейшая выстава “Язэп Драздовіч: “прыйдзе час”. Менавіта правінцыйны музей культуры і быту з вёскі Германавічы Шаркоўшчынскага раёна даў старт новаму праекту.**

■Кастусь Александровіч

І ў далейшым у адрэстаўрыраванай выставачнай зале ратушы ў абласным цэнтры будуць дэманстравацца лепшыя экспанаты з музеяў у глыбінцы. Дарэчы, падчас адкрыцця гэтай знакавай экспазіцыі было аб’яўлена, што неўзабаве Германавіцкі музей атрымае назву музея імя Язэпа Драздовіча. Многае зрабіла, каб пастаць гэтага славутага мастака, якога разам з Маркам Шагалам адносяць да кагорты лепшых беларускіх мастакоў у свеце, стала вядомай многім суайчыннікам у наш час энтузіаст нацыянальнага адраджэння Ада Райчонак. Дзякуючы яе нястомнай працы, удалося адшукаць раней намаляваныя ўраджэнцам Дзісненшчыны знакамітыя карціны і маляваныя дываны, стварыць потым гэты музей. Яшчэ летась прайшлі ўжо другія па ліку Драздовічскія чытанні да 120-й гадавіны ягонага нараджэння. Даследванні па гэтай тэме выйшлі асобным зборнікам, які таксама быў прадстаўлены на выставе. Пра цікавейшага творцу, фальклярыста і вандроўніка цяпер можна пачытаць і ў шэрагу іншых культурных цэнтраў Віцебска.

Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 31.12.09 | | | | пятн.01.01.10 | | | суб. 02.01.10 | | нядз.03.01.10 | | пн 04.01. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | * | | | * | | | * * | * * | * | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °C | -5 | -4 | -2 | -5 | -7 | -6 | -5 | -8 | -8 | -15 | -15 | -14 | -11 |
| Ціск, мм | 734 | 734 | 735 | 737 | 738 | 739 | 739 | 740 | 741 | 744 | 747 | 748 | 747 |
| Вільготнасць, % | 92 | 92 | 89 | 91 | 93 | 88 | 89 | 90 | 88 | 86 | 86 | - | - |
| Вецер м/сек | З 3 | З 1 | З 2 | З 3 | Ю-З 1 | Ю-В 2 | В 3 | В 5 | С-В 6 | С 6 | С 6 | С-З 5 | С-З 2 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Дэфіцыт рэспубліканскага бюджэта Беларусі на 2010 год, прынятага ў паскораным рэжыме, складзе 2 трлн. 700 млрд. рублёў. Пакуль невядома, калі намечана павысіць зарплаты, бюджэт пражытковага мінімума, мінімальную зарплату беларусам. Хутчэй усяго гэта можа адбыцца напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Аднак эксперты папярэджваюць, што дабіцца сярэдняй зарплаты на канец года 500 USD у месяц пад уплывам крызісу будзе вельмі складана без новых займаў і продажу дзяржуласнасці.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Кітай.*** Краіна пачала будаўніцтва самага вялікага ў свеце шасціпалоснага маста даўжынёй 50 кіламетраў, які праз 5 гадоў злучыць па мору Ганконг з Макао.

***Венесуэла.*** Новую валюту сукрэ замест долара ва ўзаемных разліках праз банк АЛБА першымі пачнуць прымяняць Куба з Венесуэлай, у гэты альянс увайшлі яшчэ 9 краін.

***Польшча.*** Ва ўмовах крызісу эканоміка краіны стала найбольш паспяховай у Еўропе, пасля ўступлення ў ЕС палякі штогод атрымоўваюць па 9,5 млрд. USD інвестыцый.

***Расія.*** Краіна, як пацвердзіў памочнік прэзідэнта РФ Аркадзь Дварковіч, можа ўступіць у СГА раней, чым яе партнёры па мытнаму Саюзу Беларусь і Казахстан.

***Германія.*** Мініяцюрны аўтамабіль Polo канцэрна Volkswagen стаў пераможцам конкурса "Лепшы аўтамабіль Еўропы 2009" дзякуючы пакету бяспекі і сучасным рухавікам.

***Балгарыя.*** На поўначы Чарнаморскага ўзбярэжжа НАТА размесціць да 2012 года зенітна-ракетныя комплексы перахвату Patriot для абароны Еўропы ад балістычных ракет.

***КНДР.*** У самай закрытай краіне свету прайшлі стыхійныя акцыі пратэсту насельніцтва пасля дэнамінацыі нацвалюты вона і абмену гэтых грошай на працягу ўсяго толькі 6 дзён.

***Расія.*** Кіраўнік урада У. Пуцін паабяцаў у 2010 годзе на фінансаванне пенсій і сацвыплат накіраваць 10 % ВУП краіны, а на абарону толькі 3 %, пенсіі вырастуць да 8 тыс. рублёў.

***Галандыя.*** Па краіне пачаў распаўсюджвацца новы від віруса казінага грыпу, які перадаецца ад жывёлы чалавеку, на яго захварэлі першыя 2300 чалавек, з іх 6 памерлі.

***Індыя.*** Сусветны банк вырашыў выдаць краіне займ у суме 1 млрд. USD на ачыстку забруджанай ракі Ганг, бо ад яе стану залежыць дабрабыт больш 400 млн. чалавек.

***Украіна.*** Перад прэзідэнцкімі выбарамі з 4 па 15 студзеня 2010 года прызначылі тэлевізійныя дэбаты пар кандыдатаў, працягласцю па 60 хвілін кожная вусная дуэль.

***Расія.*** За год сярэдняя зарплата бюджэтнікаў у РФ вырасла на 17,9 % і дасягнула 25,3 тыс. рублёў (2,4 млн. беларускіх), у Беларусі яна меншая ў 3 разы і ні разу не павышалася.

***Эстонія.*** Паміж краінай і суседняй Фінляндыяй запусцілі спецыяльныя "алкагольныя" аўтобусы з кантэйнерамі для напояў з загрузкай 90 літраў гарэлкі і 110 л піва для фінаў.

***Літва.*** Літоўскі порт Клайпеда выйграў тэндэр і адправіў на сучасным судне чарговую партыю з 535 беларускіх трактароў у Венесуэлу, куды ўсяго трэба паставіць іх 2 тысячы.

***Партугалія.*** На кангрэсе УЕФА зацвердзілі гарады для правядзення чэмпіяната Еўропы па футболе 2012 года: Кіеў, Данецк, Харкаў, Львоў, Варшаву, Гданьск, Вроцлаў і Кракаў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** На люты 2010 года адкладзена падпісанне праграмы супрацоўніцтва РБ і РФ у энергетычнай сферы, Масква дабіваецца доступу да беларускіх актываў гэтай сферы.

***Мінск.*** Для падтрымкі курсу нацвалюты ў 2010 годзе і яе дэвальвацыі на 10 % Нацбанку РБ прыйдзецца прыцягнуць замежных інвестыцый і крэдытаў у суме больш 5 млрд. USD.

***Гомель.*** Па рашэнню кіраўніцтва вобласці намечана ліквідацыя яшчэ 20 маланаселеных сельсаветаў, за папярэдніх 3 гады прымусова рэарганізавалі 24 сельвыканкамы.

***Мінск.*** Старшыня ФПБ Леанід Козік выказаў занепакоенасць ростам скрытага беспрацоўя ў Беларусі і тым, што беспрацоўны ў нас цяпер не пражыве на 0,5 USD дапамогі ў суткі.

***Гродна.*** Пасля маштабнай рэстаўрацыі прайшло асвячэнне і ўзнясце купала з крыжам дамавой царквы Архірэйскага пададворку помніка архітэктуры XVIII стагоддзя.

***Мінск.*** Сусветны банк рэкамендаваў ураду Беларусі павялічыць сацыяльныя расходы на падтрымку сем'яў за рысай беднасці, такія пажаданні атрымалі і Літва, Эстонія, Малдова.

***Баранавічы.*** Каб пазбегнуць скарачэнняў працуючых, на мясцовым камбінаце хлебапрадуктаў частку зарплаты пачалі выдаваць мукой, крупамі, альбо камбікормам.

***Мінск.*** Як і чакалася, найбуйнейшы Ашчадны банк РФ набыў беларускі "БПБ-Банк" за 280,7 млн. USD і пагадзіўся ўдзельнічаць у рэалізацыі інвестыцыйных праектаў Беларусі.

***Брэст.*** Напярэдадні Каляд у горадзе адкрыўся першы ў вобласці гіпермаркет "Карона" з 75 тысячамі тавараў, тут ёсць яшчэ банк, аптэка, рэстаран, кафэ і шмат іншых аб'ектаў.

***Мінск.*** За першых 11 месяцаў года насельніцтва Беларусі купіла ў банках валюты ў суме 6,3 млрд. USD, значна болей, чым прадала ім айчынным банкам 5,539 млрд. долараў.

***Воранава.*** У выніку аварыі загінулі адразу тры міліцыянеры райаддзела дэпартамента аховы МУС, на іх службовы аўтамабіль наляцела іншамарка, якой кіравала жыхарка Ліды.

***Мінск.*** На фінансаванне дзяржаўных СМІ на 2010 выдзелена 167 млрд. рублёў, што болей расходаў на пракуратуру (83,9 млрд.), ВНУ краіны (97 млрд.), рамонт жылля (85 млрд.).

***Касцюковічы.*** За адмову даць 40 тыс. рублёў 23-гадовы ўнук забіў у вёсцы Вішні сякерай свайго 76-гадовага дзеда з бабуляй, іх целы закапаў на агародзе побач з хатай старых.

***Барысаў.*** На неахоўваемай станцыі на трасе Брэст-Масква каля вёскі Стайкі ноччу злачынцы злілі з бакаў трох фур больш тысячы літраў саляркі, пакуль іх вадзіцелі спалі.

***Мінск.*** На беразе Заслаўскага вадасховішча 8 шматдзетных сем'яў засяліліся ў дзіцячую вёску "Вытокі" у канфіскаваныя шыкоўныя вялікія катэджы былых міліцэйскіх генералаў.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** У канцэртным зале "Віцебск" на абласное свята ёлкі запрасілі 850 хлопчыкаў і дзяўчынак з раёнаў вобласці, на акцыю "Нашы дзеці" і падарункі пайшло 200 млн. рублёў.

***Орша.*** На базе былога санаторыя-прафілакторыя завода "Лёс" у Барані адкрылася рэабілітацыйнае аддзяленне гарбальніцы № 3 для далечвання траўм, цяжкіх хвароб.

***Віцебск.*** З-за эканамічнага крызіса бюджэт Віцебскай вобласці недаатрымаў у 2009 годзе 555 млрд. рублёў даходаў, ва ўсіх раёнах вобласці вырасла запазычанасць па плацяжах.

***Талачын.*** Толькі 1 з 89 жылых дамоў, як выявіў Дзяржкантроль, быў аснашчаны ў раёне абавязковымі рэгулятарамі падачы цяпла, 17 кацелень вобласці часова выйшлі са строю.

***Орша.*** З дапамогай Беларускага парка высокіх тэхналогій у горадзе адкрыўся цэнтр інфармацыйных тэхналогій для дзяцей і моладзі, павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў.

***Наваполацк.*** Сёлета ААТ "Нафтан" з-за крызіса зменшыла свой прыбытак у 7 разоў, у 2 разы знешыліся экспарт і рэнтабельнасць працы, выпуск прадукцыі склаў толькі 92 %.

***Віцебск.*** Напярэдадні каталіцкіх Каляд па цэнтры горада прайшло шэсце Дзедаў Марозаў і прэзентацыя на плошчы Свабоды галоўнай ёлкі Віцебшчыны вышынёй 35 метраў.

***Новалукомль.*** Перад навагоднімі святамі здалі ў эксплуатацыю 40-кватэрны жылы дом для работнікаў Лукомльскай ГРЭС, па раёну пабудавалі 12,5 тыс. кв. метраў жылля.

***Шуміліна.*** З-за курэння на падпітку ноччу пачаўся пажар у інтэрнаце ПМК-70, каля свайго пакоя загінуў 49-гадовы рабочы льнозавода, удалося пазбегнуць эвакуацыі людзей.

***Полацк.*** Святары горада на чале з архіепіскапам Феадосіем правялі малебен і затым асвячэнне ўсіх памяшканняў і прадукцыі мясцовага камбіната хлебапрадуктаў.

***Лепель.*** Са значным спазненнем, толькі пасля снегапада ў пахаладання залеглі на зімовую спячку бурыя мядзведзі ў Бярэзінскім запаведніку, іх жыве ў лясах краіны каля 150 асоб.

***Ушачы.*** Сапраўдны пасёлак з новенькіх катэджаў з усімі зручнасцямі пабудавалі ў вёсцы Ліпавец для работнікаў райаграсэрвісу, сюды падвялі і прыродны газ для вяскоўцаў.

***Мёры.*** На свяце спорту ў Доме культуры райцэнтра прайшло ўшанаванне чэмпіёнаў Віцебскай вобласці па футболе ФК "Мёры", ветэранаў каманды і выхаванцаў ДЮСШ.

***Орша.*** Мясакансервавы камбінат наладзіў вытворчасць адразу 7 новых відаў прадуктаў дзіцячага харчавання, што дазволіла павялічыць аб'ёмы рэалізацыі прадукцыі на 15,6 %.

***Шаркоўшчына.*** 60-годдзе СВК "Вялікае Сяло" супала тут з урачыстым адкрыццём у адрэстаўраваным Доме культуры 10-га па ліку ў раёне аграгарадка на 200 выхаваў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**688** *млн. USD* такі чацвёрты транш, па дадзеных Нацыянальнага банка, выдзеліў напрыканцы года МВФ для Беларусі. Адпаведнае рашэнне Савета дырэктароў гэтага фонду было зацверджана пасля адабрэння чарговага агляду па праграме стэнд-бай для нашай краіны. З пачатку 2009 года агульная сума дапамогі беларусам дасягнула 2,88 млрд. долараў і ўсе выдзеленыя грошы паступілі ў золатавалютныя рэзервы дзяржавы.

Перад гэтым місія МВФ па выніках сваёй інспекцыі ў лістападзе давалі станоўча ацаніла праводзімую ўладамі Беларусі эканамічную палітыку ў перыяд крызісу і выкананне раней узятых на сябе абавязацельстваў. Такая дапамога з Захаду тым больш важкая, паколькі нам так і не далі раней абяцаны заключны транш расійскага крэдыту ў памеры 500 млн. USD.

Больш таго, эксперты МВФ сцвярджаюць, што Беларусь пачынае выходзіць з крызісу, хоць па-ранейшаму яшчэ можа пацярпець ад знешніх узрушэнняў. Галоўнае, што стабілізаваўся аб'ём айчыннага экспарту, захоўваюцца абменны курс рубля РБ і давер насельніцтва да нацыянальнай валюты.

Таксама было адзначана, што беларускае кіраўніцтва нарэшце пачало праводзіць разумную крэдытную палітыку і абмяжоўваць выдзяленні шчодрых крэдытаў пад розныя дзяржпраграмы на нярынкавых умовах. Аднак гэта не азначае, што ў нас канчаткова перамог курс на лібералізацыю эканомікі, прыватызацыю, структурныя рынкавыя рэформы. Наступаючы 2010 год будзе адзначаны важнай перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніяй і вельмі верагодна, што ад супрацоўніцтва з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі наша краіна часова можа і адмовіцца.

Няхай жа неабходна дабіцца павышэння зарплаты бюджэтнікам да абяцаных 420 USD у месяц пры прынятым дэфіцытным бюджэце краіны 2,7 трлн. рублёў. Між тым, сёлета Беларусь вымушана была скарацішь у канцы года аб'ём бюджэтнага фінансавання яшчэ на 2 трыльёны па патрабаванню МВФ. Раней такое "уразанне" бюджэту-2009 адбылося ў маі, бо мы недаатрымлівалі запланаваныя даходы. Адмоўнае ж сальда знешняга гандлю зноў сёлета наблізілася да 5 млрд. USD і не сведчыла аб устойлівай эфектыўнасці беларускай эканомікі.

Асаблівасцю адыходзячага года стала ва ўмовах крызісу заканамернае змяншэнне аб'ёмаў вытворчасці, замаруджванне росту эканомікі і заробкаў працоўных. А тут ужо адкрыта вуснамі таго ж главы Нацбанка П. Пракаповіча гаворыцца, што зарплату ў сярэднім 1,2 млн. рублёў у бюджэтнай сферы можна атрымаць і без замежных крэдытаў, калі падняць прадукцыйнасць працы на 10 %. Хутчэй усяго дабіцца гэтага можа дапамагчы друкаваны станок. Невыпадкова на фінішы года пайшлі на павышэнне інфляцыі, падняўшы цэны на гарэлку,тытунь, ялавічыну, свініну, паслугі пошты і электрасувязі.

Кіраўніцтва краіны прыняла на будучы год эканамічны рост на 111-113 % ВУП і намецілa канчатковае пераадоленне сусветнага крызіса, каб выйсці на параметры сваёй чарговай пяцігодкі. Ад усіх органаў кіравання запатрабавана безумоўнае выкананне гэтых высокіх рубяжоў, актыўнай напружанай працы з поўнай самааддачай. Праграма супрацоўніцтва з МВФ завяршаецца ў сакавіку 2010 года, і ранейшыя планы ўрада РБ па стварэнню Агенцтва фінансавага развіцця і Агенцтва па прыватызацыі ўжо шырока не агучваюцца.

А вось пасля выбараў зноў можна будзе не адмаўляцца ад выгадных умоў супрацоўніцтва і новых крэдытаў МВФ. Вось толькі да таго часу прыйдзе пара разлічвацца з фондам па цяперашніх займах, і тады будзем дэманстраваць прагрэс у накірунку паспешных рэформ. Пакуль жа эканоміка Беларусі ў канцы года прадэманстравала зніжэнне ВУП 0,4 % і аб'ёмаў вытворчасці мінус 3,7 %.

Няхай гэта меней, чым у іншых краінах, але Беларусь упарта ідзе сваім ранейшым курсам, арыентуючыся па-ранейшаму на вал любой цаной. У выніку ў сярэдзіне года складскія запасы дасягнулі пагражальных сум 7,3 трлн. рублёў і толькі цяпер скараціліся да 6 трлн. На паперы многае ў нас атрымліваецца, толькі лягчэй жыць не становіцца.

# Жыхар Ашмян зрабіў ялінку з бутэлек з-пад шампанскага



**Як распавёў аўтар ідэі Віктар Сінкевіч, каб «вырасціць» елку ў натуральную велічыню, яму спатрэбіліся два месяцы.**

А вось збор лапак-бутэлек, якіх спатрэбілася 1750, заняў у дызайнера-аматара два гады, паведамляе «Салідарнасць».

Асноўнымі пастаўшчыкамі бутэлек з-пад шампанскага былі маладыя, якія пасля вясельных імпрэз звозілі пустую шклатару Віктару.

Тэхналогія збору канструкцыі такая: спачатку быў зроблены каркас з дрота, затым да яго мацаваліся бутэлькі, закрытыя поліэтыленавымі крышкамі (каб унутр не трапляла вада). Да Новага года Віктар плануе ўпрыгожыць елку ўнутраным падсвятленнем.

Зялёная прыгажуня, якая прапісалася ў двары ашмянца, ужо стала мясцовай выбітнасцю. Суседзі і знаёмыя Віктара не аднойчы цікавіліся рэцэптамі стварэння такога вечназялёнага дрэва. Цалкам магчыма, што Сінкевіч стане заканадаўцам экалагічнага накірунку ў модзе на ўпрыгожванне двароў гараджан малымі архітэктурнымі формамі.

Дарэчы, сам аўтар мае намер працягнуць творчасць будаўніцтвам бутэлькавай хаты.



# Ад'езд Банапарта з Глыбокага

**Усім вядомыя адказы Напалеона, часта лаканічныя, але дасціпныя. Адзін з малавядомых, з гэтага яго паходу 1812 года, узгадаем. Галоўная кватэра Імператара была ў мястэчку Глыбокае Мінскай губерні, ён спыніўся там у вялікім і багатым манастыры тамтэйшых Кармелітаў, і, адпачываючы некалькі дзён, часта размаўляў з іх пастырам. Раз спытаў яго Напалеон: наколькі багатыя Кармеліты ў Глыбокім? – Прыёр адказваў, што ў іх да тысячы дымоў. – Напалеон сказаў: c`est trop. – Чым жа займаецеся? Спытаў далей. – Бога хвалім, адказваў прыёр. – «C`est peu» сказаў Напалеон.**

**Крыніца:** *А. І.Фядута, «Напалеон і Ян Снядзецкі»*

Дажджлівым летам 1812 года на пляцы невялікага беларускага мястэчка, перад касцёлам стаялі двое. Адзін – у доўгім манашскім хабіце, выпешчаныя рукі з настаяцельскім пярсцёнкам хаваюцца ў рукавы, завостраныя рысы твару штучнай пакорай адцягваюць увагу ад твараў браціі і мяшчан, натоўп якіх стаяў воддаль. Шэры паходны мундзір іншага рэзка кантрастуе з пышнымі ківерамі афіцэраў світы. Імператарскі экіпаж пададзены. Прыйшоў час ехаць. У насталым маўчанні чалавек у шэрым мундзіры апошні раз узнімае погляд на вежы касцёла і стомлена ўсміхаючыся, гаворыць плябану: «Шкада, што я не магу ўзяць гэты храм з сабою ў Парыж. Сабору Нотр-Дам было б не сорамна суседнічаць з ім».

Такія словы Напалеона Банапарта захавала для нас гісторыя. 18 ліпеня 1812 года імператар Францыі, рухаючыся па дарозе з Вільні ў Полацк, прыбыў са сваім штабам у мястэчка Глыбокае. Напалеон патрапіў у навальніцу. Дарогі сталіся непраходныя, прыйшлося перачакаць непагадзь у ляжалым на шляху французскага войска мястэчку.

Імператар правёў у Глыбокім дзесяць дзён. Плябан тутэйшага карміліцкага манастыра падаў яму ўласныя пакоі. Банапарт пісаў, затым, стоячы ў акна, падоўгу глядзеў на ціхамірныя «le plain de Glubokoje» (глыбоцкія раўніны), залітыя дажджамі. Чакаючы падыходу цяжкай артылерыі, якая захраснула дзесьці на размытых вадой дарогах, імператар складае знакаміты «Зварот генеральнай канфедэрацыі да палякаў», з заклікам ваяваць у складзе французскага войска. Адзначым, што шматлікія прадстаўнікі шляхты бачылі ў Напалеоне вызваліцеля ад улады Расіі, у склад якой польскія і беларускія землі ўвайшлі пасля падзелу Рэчы паспалітай у 1795 годзе. І нашы землякі сапраўды ўсталі пад сцягі французскага войска…

Ці ведаў імператар, што яго адбыццё з Глыбокага стане першым крокам на шляху да канца? І ці не было божага знака ў гэтай страшнай навальніцы?.. І можа быць не выпадкова лёс закінуў Банапарта ў гэтае маленькае правінцыйнае мястэчка з вялізным і выдатным саборам, які нагадваў яму Францыю? Хто ведае…

У скароце. **Крыніца:** *http://www.liveinternet.ru/users/telenn_gwad/post111781268/*


«Сабору Нотр-Дам было б не сорамна суседнічаць з ім».

## Папа паабедаў з жабракамі

**Бенедыкт XVI наведаў сталоўку для бяздомных у Рыме. Гэта першы публічны выхад пантыфіка пасля нападу на яго вар'яткі ў чацвер.**

Разам з Папам абедалі 150 бяздомных і жабракоў рознага веку.

«Я тутака, каб сказаць вам, што я блізкі да вас і люблю вас, і што Царква ўсім сэрцам з найубожшымі», – сказаў Папа.

*Сяргей Гезгала*

## У Віцебскай вобласці з'явіўся новы мільярдэр

■ **Сяржук Серабро**

27 снежня ў 253-м розыгрышы Беларускай нацыянальнай спартовай латарэі «СУПЕРЛАТО» у 4-м туры выйграў квіток №063888.2 набыты ў Віцебску або Віцебскай вобласці. Сума выйгрышу склала 1 000 000 000 (адзін мільярд) рублёў, уключаючы джэк-пот, які складаў 608 мільёнаў рублёў.

Выйгрыш адбыўся на 61 першым ходзе розыгрышу, у 4-м туры было вынята ўсяго 11 бочачак. Квіток латарэі «СУПЕРЛАТО» абыйшоўся мільярдэру ў 5000 рублёў.

# Віншаванне біскупа Віцебскага Уладзіслава Бліна

Дзякую табе, мама, за тое, што мяне нарадзіла. Дзякую табе за мацярынскую любоў. Дзякую табе за святарства, якое для мяне вымаліла. За тое, што дзякуючы маёй паслузе штодня нараджаецца Хрыстус у сэрцах маіх братоў і сясцёр.

За акном цёмная ноч атуляе зямлю, а я на каленях дзякую Стварыцеля за цуд Божага Нараджэння. Дзякую за маці, якія нараджаюць дзяцей. Дзякую за кожнае новае жыццё.

Дзіцятка для нас нарадзілася – маленькі Езус. Ён нястомна чакае кожнага з нас. Прагне даць нам усім прыгожае жыццё, поўнае радасці і любові. Прымі Яго запрашэнне і будзь шчаслівы.

Віншую кожнага з вас з нагоды Божага Нараджэння і шчыра жадаю быць годнымі запаветаў Хрыста!

## Мінімальная заработная плата ў Беларусі з 1 студзеня 2010 года падвышаецца да Br258,6 тыс.

**У Беларусі з 1 студзеня 2010 года падвышаецца мінімальная заработная плата да Br258 тыс. 600. Такое рашэнне прынята пастановай Савета Міністраў ад 26 снежня 2009 года №1700, паведамілі БелТА у Апараце Саўміна.**

Нагадаем, што з 1 студзеня 2009 года ў рэспубліцы дзейнічала мінімальная заработная плата ў памеры Br229 тыс. 700.

У адпаведнасці з пастановай №1700 усталявана пагадзінная мінімальная заработная плата ў памеры Br1530.

www.belta.by

## Памер дапамогі па догляду за дзіцяці да трох гадоў узрастае ў Беларусі з 1 студзеня 2010 года да 100% БПМ

У Беларусі з 1 студзеня 2010 года павялічваецца памер штомесячнай дапамогі па догляду за дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў з 80% да 100% бюджэту пражытковага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Указ аб гэтым 24 снежня падпісаў Прэзідэнт Беларусі, паведамілі БелТА у прэс-службе кіраўніка дзяржавы.

У цяперашні час памер дапамогі складае 80% бюджэту пражытковага мінімуму, або Br200 056.

З прыняццем указу памер дапамогі па 31 студзеня 2010 года будзе складаць Br250 070. У наступным ён будзе ўзрастаць па меры штоквартальнага павелічэння бюджэту пражытковага мінімуму.

www.belta.by

# Песня выхадца з Талачына ўвайшла ў топ калядных хітоў у ЗША

**Балада «Белыя Каляды» (White Christmas), напісаная ў ЗША выхадцам з Беларусі Ірвінгам Берлінам, увайшла ў спіс калядных хітоў «усіх часоў» па апытаннях амерыканскіх СМІ.**




Кампазіцыя дэбютавала яшчэ ў 1942 годзе ў фільме «Гатэль на свяце» Бінга Кросбі. Спачатку яна не мела поспеху, але сёння Каляды немагчыма прадставіць без гэтай балады.

Ірвінг Берлін, адзін з найболей вядомых амерыканскіх кампазітараў і паэтаў (сапраўднае імя Ізраіль Ісідар Балін, Israel Isidore Baline) нарадзіўся 11 траўня 1888 года ў шматдзетнай габрэйскай сям'і ў мястэчку Талачын Магілёўскай губерні.

Любоў да спеваў яму прывіў бацька, які быў кантарам (галоўным спеваком) у магілёўскай сінагозе.

Ратуючыся ад пагромаў, яго сям'я эмігравала ў Амерыку, калі хлопчыку было ўсяго пяць гадоў. Пасля смерці бацькі ён пачаў дапамагаць маці зарабляць, выконваючы песні на вуліцах, пазней – у рэстаране. Менавіта тады ён напісаў свой першы твор пад назвам «Marie from Sunny Italy» (Мары з сонечнай Італіі) па замове гаспадара рэстарана.

Берлін валодаў сапраўды ўнікальным песенным талентам, які дазволіў яму пісаць як музыку, так і словы для сваіх твораў. Нягледзячы на тое, што ні музычнай, ні нават толкам скончанай звычайнай адукацыі ў яго не было, ён напісаў больш 3000 песень, у тым ліку неафіцыйны гімн ЗША «God Bless America» («Божа, блаславі Амерыку»). Акрамя таго, ён з'яўляецца аўтарам музыкі да 17 кінафільмаў і 21 брадвейскаму мюзіклу.

# Парыжанам пашанцавала: цяпер яны будуць жыць у аграгарадку

■ Алена Штраль

**Акурат на Каляды вёску Парыж, што на Пастаўшчыне, абвясцілі аграгарадком. Раённае кіраўніцтва і самі парыжане спадзяюцца, што такое змяненне статусу вёскі прывядзе да павелічэння фінансавання мясцовай гаспадаркі.**

З гэтай нагоды ў Парыжскім сельскім клубе – як ні дзіўна гэта гучыць, але менавіта так называецца мясцовая культурніцкая ўстанова – прайшло ўрачыстае пасяджэнне і адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Старшыня сельсавета і старшыня сельгаспрадпрыемства "Залаты вянок" атрымалі сімвалічны ключ ад аграгарадка Парыж. А Дзед Мароз са Снягуркай, якія следам за начальствам выйшлі на сцэну, павіталіся з гледачамі ў зале па-французску.

Пастаўскае раённае кіраўніцтва лічыць вельмі перспектыўным тое, што ў Парыжы цяпер аграгарадок: новы статус абумоўлівае новае фінансаванне, якое дазволіць крыху давесці да ладу заняпалую вясковую гаспадарку. З часам, лічаць у райвыканкаме, у Парыж можна будзе вазіць турыстаў – каб паказваць не французскія, а тутэйшыя цікавосткі.

Пра першую з іх – Эйфелеву вежу з каталіцкім крыжам уверсе – ужо пісалі ледзьве не ўсе беларускія СМІ. Зараз, узімку, 30-метровая жалезная канструкцыя выглядае не дужа прэзентабельна, і навакольны краявід не цешыць вока: акурат за вежай размешчаны зачынены дзіцячы садок, у якім знакаміты ксёндз Ёзас Булька некалі меркаваў стварыць музей Яна Паўла II. Будынак не адрамантавалі, і музей давялося размясціць у іншым, меншым памяшканні.

Затое рамонт праведзены ў клубе, сярэдняй школе і садку, якія наведваюць усяго 27 дзетак, у бальніцы на 13 месцаў і ў так званай "бытоўцы" – адмысловым памяшканні, дзе прымаюць замовы на бытавыя паслугі. Да прыкладу, на паслугі цырульніка, для якога тут абсталявалі працоўнае месца. Аднак сам спецыяліст прыедзе толькі тады, калі замоваў збярэцца некалькі. Так што сапраўдным парыжанкам давядзецца крыху пачакаць з навядзеннем "французскага лоску".

Пра жыццё ў іншым Парыжы мясцовыя жыхары цяпер змогуць даведацца праз інтэрнэт. Паводле стандарту, у кожным аграгарадку мусіць быць адно месца для наведвальнікаў сусветнага сеціва, і на парыжскай пошце цяпер таксама ёсць такая паслуга.

Ні французскага віна, ні французскай парфумы ў мясцовых крамах не знайсці, хаця крамаў ажно дзве – дзяржаўная і прыватная. Раней вяскоўцы мелі цэлы гандлёвы цэнтр, які зачыніліі, бо стаў нерэнтабельным. Цяпер у гэты будынак ходзяць маліцца – пасля грунтоўнай рэстаўрацыі тут адчынілі касцёл Святога Юзафа.

Аднак па французскай парфуме парыжанкі не бядуюць: на "калгасны" заробак такой раскошы ўсё адно не купіш, а іншае працы тут не знайсці. Мясцовыя жыхары мараць, каб у вёсцы адчынілі хаця б нейкую вытворчасць для моладзі, якая з'язджае з роднага краю ў пошуках працы.

Цяпер у аграгарадку жывуць усяго 340 парыжанаў. І дзеля калядных святаў яны купляюць не французскае, а падсвільскае віно, якое робяць тут жа, на Глыбоччыне.




# У Беразвеччы пачалі будаваць новы мікрараён?

■ Ул. Скрабатун

Жонка кажа: «У Беразвечча «нагналі» тэхнікі... Пэўна Лядовую Арэну пачалі будаваць?

– Ну, дык паехалі, глянем, – кажу.

Тое, што у Беразвеччы, збоч дарогі на Шаркоўшчыну, будуецца 5-павярховы дом, і працуе вежавы кран – даўно не сакрэт. Але, што гэта за новабудоўля? На тым месцы, дзе меркавана мусіць быць Лядовая Арэна – цішыня! Воддаль, за метраў 300 ад палікліннікі, у бок Абруба-Беразвецкага, назіраецца інтэнсіўная работа.

Падыходжу да рабочых.

– Што будуем, скажыце, калі ласка?

– Дом 60-кватэрны.

– Дык нешта ж, дужа далёка ад паліклінікі! Калі не паўкіламетра, дык 300 м, дакладна, ёсць.

– Тут будзе цэлы мікрараён, – паказваючы рукой на разлеглае поле, кажа адзін з работнікаў.

Цікава, што дом будуе Шаркоўшчынская ПМК-68. У нас жа ў Глыбокім ледзьве не ўсю будаўнічую індустрыю знішчылі. Глыбоцкія будаўнікі едуць на заробкі ў Расію, шаркоўшчынскія – у Глыбокае.




# Як страўніку перажыць святы

**У беларускіх традыцыях — паставіць на стол дзясятак розных страваў. Але як выжыць, з'еўшы толькі па кавалачку розных прысмакаў, а пасля яшчэ і кавалак торта наверх?**

Перад застоллем мы не ямо дома і эканомім месца ў страўніку. Гэта няправільна: галодны намагаецца пакласці сабе ў талерку болей, чым можа здужаць, і праглынае ўсё імгненна. Аднак мозг атрымлівае сігнал пра сытасць толькі праз 20 хвілін пасля таго, як арганізм насычаны. Адсюль і пераяданне.

Лёгкі перакус перад гасцямі прытупляе пачуццё голаду, а вашы смакавыя рэцэптары становяцца больш успрымальнымі да нюансаў гастранамічных шэдэўраў.

Ідучы ў госці галодныя, мы самі сябе пазбаўляем задавальнення ад прысмакаў.

Тым, хто схільны да частых разладаў кішэчніка, можна за паўтары-дзве гадзіны да гасцей выпіць гарбаты з мятай, мелісай, сардэчнікам, валяр'янай.

Падумайце пра спалучальнасць прадуктаў і напояў. Напрыклад, мяса і рыбу адначасова ўжываць непажадана. Дый да рыбы пасуе белае віно, а да мяса чырвонае. А калі змяшаць чырвонае і белае, страўнік не парадуецца. А вось шампанскае пасуе да дэсерту. Толькі меру ведайце.

Салёная і марынаваная гароднiна — найлепшы гарнір да мяса і рыбы. Аднак памятайце: трапіўшы ў страўнік з марозівам ці крэмам, агурочкі ды памідорчыкі могуць ускладніць пасляzастольнае жыццё.

А кожная дадатковая шклянка вадкасці разбаўляе страўнікавы сок і расцягвае без таго раздзьмуты страўнік.

Кавалачак лімона, буйны крышталік солі ці кубік лёду пераб'юць смагу.

*Настасся Шамрэй*

# Радкі ўдзячнасці

**Выказваем падзяку нашаму сацыяльнаму работніку Алене Янцэвіч за яе дабрыню, уважлівыя адносіны, шчырасць і добрасумленнаасць.**

Вялікі ёй дзякуй за тое, што яна падтрымлівае нас у жыцці. Хочам яе павіншаваць з прафесійным святам і пажадаць усяго самага найлепшага.

А.А. Лазаронак, Н.П. Пода, Е.К. Паманчук

# Кампазітар Яўген Алейнік і паэтка Юлія Быкава адсвяткавалі творчы юбілей


Кампазітар Яўген Алейнік і паэтка Юлія Быкава

**Вядомы кампазітар Яўген Алейнік і яго сужэнка паэтка Юлія Быкава, якія напісалі разам 100 песень для артыстаў Беларусі і блізкага замежжа, адзначылі творчы юбілей у клубе «Nika».**

Сярод гасцяў былі заўважаныя шматлікія вядомыя персоны: Ірына Дарафеева, Іна Афанасьева, Нэлі Чобану, Дзімітр, Гера, рэжысёр Ганна Гарбачоўская, дызайнеры Марына і Вольга Парфяновіч, бізнэсмэны Яраслаў Буяльскі (дырэктар кампаніі «Проммедінвест») і Юрый Дзевойна (дырэктар кампаніі «Кліматофф»). Ахвотных павіншаваць вінаватых урачыстасці прыйшло так шмат, што не ўсім знайшлося месца за столікамі. Экс-саліст групы Atlantica Дзімітр, які прыйшоў пазней усіх, так і прастаяў увесь вечар.

Пакуль збіраліся госці, у зале гучала музыка ў выкананні скрыпічнага квартэта. У дзвярах гасцяў сустракала чароўная маладзіца, якая стаяла на стале і паказвала лебедзя. Госці не спяшаліся, прыходзілі паступова. Адной з першых прыйшла Ірына Дарафеева разам са сваім прадзюсарам Юрыем Савашам і малдаўскай спявачкай Нэлі Чобану. Бліжэй да пачатку вечара прыехала Іна Афанасьева са сваім дырэктарам Анжэлай Далінінай. Гасцяў сустракалі самі вінаватыя ўрачыстасці - паэтка Юлія Быкава і кампазітар Яўген Алейнік. Усе з нецярпеннем чакалі пачатку мерапрыемства.

– Творчы юбілей з нагоды напісання 100-й сумеснай песні мы вырашылі адзначыць у коле сяброў і знаёмых, – сказаў Яўген Алейнік са сцэны. – Чаму наша вечарынка завецца канцэртам-прэзэнтацыяй? Зараз мы актыўна займаемся прадзюсаваннем групы «Aura», салісткай якой з'яўляецца мая жонка Юлія Быкава. Сёння мы жадаем прэзентаваць новыя песні і кліп групы «Aura». На сцэну выйдуць і тыя артысты, якія выконваюць нашы песні.


Юлія Быкава

Пачаўся вечар абяцанай прэзентацыяй новых песень групы «Aura». Госці жыва адрэагавалі на свежыя кампазіцыі, некаторыя нават выйшлі танчыць. Падчас выканання Юліяй Быкавай павольнай песні галантны мужчына запрасіў Ірыну Дарафееву на танец. Спявачка ласкава пагадзілася. Неўзабаве Ірына сама выйшла на сцэну выканаць песню, напісаную Юліяй Быкавай і Яўгенам Алейнікам.

– Мне прыемна, што лёс звёў мяне з такімі таленавітымі людзьмі як Юлія і Яўген, – падзялілася са сцэны з іншымі гасцямі Ірына Дарафеева. – Яны напісалі для мяне досыць шмат песень, завошта я ім бязмерна ўдзячная. Зараз я выканаю адну з нашых сумесных кампазіцый.

Праўда, з выкананнем песні паўсталі некаторыя праблемы. Сталася, што мінусовая фанаграма для песні Дарафеевай не адкрылася на камп'ютары. Але артыстка не разгубілася, выканала кампазіцыю з «жывым» гукам, ёй падыгралі музыкі групы «Aura». Гледачам спадабалася.

У праграме вечара значыўся аўкцыён фатаграфій. Рэжысёр, дызайнер і фатограф Ганна Гарбачэўская зрабіла шыкоўныя партрэты Юліі Быкавай, тры з якіх і былі выстаўленыя на аўкцыён. У выніку здымкі былі прададзеныя на агульную суму 650 тысяч. Атрыманыя грошы пайшлі ў дзяржаўнае прадпрыемства «Фаўна горада».

– Мы рады, што нам атрымалася сабраць такую прыстойную суму грошай, – сказала Юлія Быкава. – Дзякуй, што вы не засталіся безуважнымі. Купіўшы мае партрэты, вы дапамаглі бяздомным жывёлінам.

У другой частцы вечара на сцэну выйшла Нэлі Чобану, якая прыехала ў Мінск адмыслова для таго, каб павіншаваць Юлію і Яўгена.

– Вы няправільна сябе паводзіце, – сказала Нэлі, звяртаючыся да вінаватых урачыстасці. – Трэба гаварыць аб сваіх заслугах, поспехах, а вы паводзіце сябе ціпла. Хай усе ведаюць, што вашы песні выконвае Надзея Бабкіна, Ірына Дарафеева, Іна Афанасьева, я і шматлікія іншыя вядомыя артысты. Вы выдатныя людзі, з якімі прыемна працаваць, супрацоўнічаць і проста сябраваць. Я з радасцю прыехала павіншаваць вас. Я наогул люблю Беларусь, у мяне тут шмат сяброў. Калі прыязджаю ў вашу краіну, заўсёды спыняюся ў сваёй сяброўкі Ірыны Дарафеевай.


Кампазітар Яўген Алейнік

Нэлі адразу ж пачала забаўляць гасцей. Для пачатку яна распавяла анекдот. Ды так пераканаўча, што смяяліся практычна ўсе. Потым яна пачала выконваць песню, але нечакана забыла словы. «Я мала спала, вельмі стамілася, пакуль прыехала ў Мінск», – сказала яна. Пасля выканання песні Нэлі распавяла яшчэ адзін анекдот. Гледачы праводзілі малдаўскую госцю са сцэны бурнымі апладысментамі.

Апошняй на сцэну выйшла Іна Афанасьева і выканала свой хіт «Перачытай», напісаны Юліяй і Яўгенам.

Фіналам вечара стала дэманстрацыя новага кліпа групы «Aura» на песню «Я твая Зямля».

Клуб быў арандаваны на ўсю ноч, жадаючыя маглі застацца да раніцы. Усе госці адзначалі гасціннасць вінаватых урачыстасці. Выпіўка і закуска, як ні дзіўна, былі ў багацці нават да канца вечара, што рэдка бывае на падобных мерапрыемствах.

**Дарэчы**

### Яўген і Юлія

Юлія Быкава – таленавітая спявачка і паэтка, якая напісала такія хіты, як «Перачытай» Іны Афанасьевай, «Гары, гары» Ірыны Дарафеевай, «Цень, цень» Надзеі Бабкінай і шматлікія іншыя. Юлія больш 5 гадоў гастралявала па Еўропе і Азіі ў якасці салісткі легендарнага калектыва «Зорачка».

Яўген Алейнік – вядомы беларускі прадзюсар, кампазітар, гітарыст, лаўрэат прэміі Папова ў вобласці радыёвяшчання.

У 2008 годзе Яўген атрымаў падзякі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Яўген і Юлія пазнаёміліся ў Бахрэйне, куды адправіліся на заробкі. Яўген працаваў гітарыстам і з'яўляўся мэнэджэрам жаночага вакальна-танцавальнага калектыва, а Юлія працавала спявачкай. Пасля тэрактаў 11 верасня разам вярнуліся на радзіму. З тых часоў яны больш не растаюцца.

Разам яны напісалі песні для шматлікіх выканаўцаў: Надзеі Бабкінай, Нэлі Чобану, Ірыны Дарафеевай, Іны Афанасьевай, Катрын, Геры, Івана Бусляя, Алёны Ланской, Аляксея Жыгалковіча. З часам Юлія і Яўген стварылі сваю музычную групу «Aura».




## Надзею Скрабатун

**Віншуем з 25-годдзем!**

Мы тебе сегодня пожелаем
Быть счастливой, чаще улыбаться!
Пусть тебя удача согревает,
Пусть твои мечты начнут сбываться!
Пожелаем жить благополучно,
Быть любимой и самой любить!
Ведь тебя милей, прекрасней, лучше
На земле не может просто быть!



*Калектыў "ВГ"*

## Крысціну Вітольдаўну Мацюшонак

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Чтоб всегда под счастливой звездою
Вас судьба по дороге вела.
В доме чтоб полноводной рекою
Жизнь спокойно и мирно текла,

Пусть Ваш дом лишь друзья посещают
Стороною обходят ненастья,
От души мы добра Вам желаем,
Долгой жизни, здоровья и счастья!



*Калектыў "ВГ"*

**Віншую з Новым годам і Ражджом калектыў магазіна №1 Мясакамбіната і іх загадчыцу.**

Желаем здоровья на долгие годы.
Чтоб Вас стороной обходили невзгоды,
Чтоб счастье и радость не знали разлуки,
Чтоб душу согрели Вам дети и внуки.



*Людміла Бахір*

**От всего сердца хочется поздравить с Рождеством и Новым годом весь коллектив скорой помощи, а также коллектив терапевтического отделения Глубокской ЦРБ и лично заведующую отделением Л. А. Романовскую. Хочется поблагодарить всех за хорошее отношение и всегда своевременную помощь.**

Примите мои поздравления
Здоровья, счастья и добра,
И пусть плохого настроения
У вас не будет никогда.
На мир смотрите с наслаждением
И грусть отступит, и беда,
Успех, удача и везение
Пусть вам сопутствуют всегда.



*С уважением И. И. Пашкович*

## Марыну М.

**З Днём нараджэння і Новым годам!**

С Новым годом, праздником зимы
Поздравляю Вас от всей души!
Пускай счастливым будет этот год,
Пускай не будет ни забот и ни хлопот.
Пускай он будет сном нежданным,
Пускай он будет другом званным.
И этот год Вам принесет
Чудесный сок и славный мед.



**Шчасця табе, дзяўчынка!**

## Надзею Скрабатун

**Віншуем з 25-годдзем!**

Желаю быть тебе счастливой!
Цвести пышнее всяких роз!
Дорогу счастья торопливо
Пройти без горя и без слез!
Желаю счастья, песен, смеха!
Побольше радости, успеха.
Прожить желаю сотню лет,
Не зная горя, слез и бед!



*Сястра Наташа.*

**Віншуем з Новым годам і Ражджом Хрыстовым калектыў хірургічнага аддзялення Глыбоцкай бальніцы.**

**Жадаем Вам сямейнага дабрабыту, поспехаў у нялёгкай працы, шчасця ў асабістым жыцці. Дзякуй Вам за Вашу працу.**

*Палата №6: Стахоўская, Маслёнак, Тарасевіч.*

## Надзею Скрабатун

**Віншуем з 25-годдзем!**

Давным-давно известно утвержденье,
Что если кто родился, то всегда,
В начале ночи, в день его рожденья,
На небе загорается звезда.
Так пусть твоя звезда не угасает
И в этот день ещё светлей горит,
Твой славный путь всё ярче освещая
И жизнь твою ничто не омрачит!



*Мама і тата.*

